


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

6 чэрвеня 2003 года

№ 23 (424)
Выходзіць па пятніцах

Плюс Тэлетыдзень

## Навіны рэгіёну

### Спякота і дождж

МЯДЗЕЛ. У маі над Нараччу выпала 90,8 мм ападкаў. Гэта амаль удвая больш за норму. А найвышэйшая тэмпература паветра – 29 градусаў цяпла. Зафіксавана яна ўдзень 26 мая — ідавочна, найбольшы паказчык для гэтага дня за некалькі дзесяцігоддзяў назірання.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### У новай упакоўцы

МАЛАДЗЕЧНА. На ААТ "Маладзечнапіва" запушчаная новая лінія беларуска-нямецкай вытворчасці па разліву піва ў паўтаралітровыя бутэлькі. У новай упакоўцы выпусцілі 6 найменняў піва. Першая партыя ў 1000 бутэлек паступіла ў продаж у панядзелак.

**Ірына РАБУШКА.**

### Лідэры ёсць

ВАЛОЖЫН. Лідэр дзіцячай арганізацыі 2003. Так называўся конкурс, у якім прынялі ўдзел педагогі-арганізатары школ раёна. Ім прыйшлося праявіць выпрабаванне "Педагагічным рынгам", "Вясёлую гульнятэку", конкурс пытанняў і адказаў. А пераможцамі сталі Людміла Пратасевіч з СШ №1, Таццяна Барташэвіч з Ракаўскай СШ і Вольга Пашкоўская – з Яршэвіцкай СШ.

**Марына СЛІЖ.**

### Сябе паказалі

ВІЛЕЙКА. Група журналістаў рэспубліканскіх газет, радыё і тэлебачання наведала 4 чэрвеня Вілейку. Гасцей, якіх сустракалі намеснік старшыні райвыконкама Мікалай Кароткі і загадчык аддзела адукацыі Уладзімір Бадзееў, пазнаёмілі з калектывамі Вілейскай гімназіі і Пагосцкай базавай школы, аднымі з лепшых ў раёне, а таксама УП "Даўгінава", дзе паскоранымі тэмпамі вядзецца нарыхтоўка кармоў.

**Марына СЛІЖ.**

### Горад прыгажэе

АШМЯНЫ. З рэканструкцыі будынкаў па вуліцы Савецкай распачалося добраўпарадкаванне горада. У цэнтральнай яго частцы ўжо заменена тратуарная плітка, фарбуюцца дамы. А на цэнтральнай плошчы разбіты клумбы.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

### Змена ў вертыкалі

АСТРАВЕЦ. Намеснікам старшыні райвыканкома па сацыяльнай сферы прызначаны загадчык аддзела інфармацыі Аляксандр Клімчэня. На яго пасаду прызначаны Сяргей Шэін, які да гэтага часу працаваў начальнікам штаба Астравецкага РАУС і займаўся арганізацыйна-кіраўніцкай дзейнасцю. Папярэдніца А. Клімчэні – Ірына Шляхтун - стала старшынёй раённага Савета дэпутатаў.

**Ірына РАБУШКА.**

# Без вады і перспектыў

**СМАРГОНЬ. У вёсцы Скірдзімы Крэўскага сельскага Савета знікла вада.**

2 гады таму тут высахлі калодзежы, вясковая сажалка таксама. Скірдзімцы мяркуюць, што вычарпаліся падземныя запасы пітной вады. Рашэннем праблемы стала б устаноўка помпаў, але на гэтае вяскоўцы не спадзяюцца. Скірдзімы – вёска, як раней казалі, бесперспектыўная: з 21-й вясковай хаты 9 пустых. Усе вяскоўцы – пенсіянеры. У 4-х хатах жывуць па 2 чалавекі, у 9-і – па адным. У бесперспектыўнасць вёскі не верыцца: хаты тут дагледжаныя, свежае паветра, чысціня, грыбы, ягады. Але ў вёсцы няма тэлефона і, што больш страшна, — вады. Таму асаблівых перспектыў Скірдзімы не маюць. Праз нейкі адрэзак часу яны ператворацца, у лепшым выпадку, у дачны пасёлак, а то і зусім знікнуць.

Тыдзень таму ў калодзежы вяскоўцаў Антона і Марыі Ляшчэўскіх вада была. Хоць і на самым дне, але для паліўкі агарода хапіла. Быў тэлефон яшчэ гадоў 10 таму, але, як расказаў гаспадар хаты, тэлефонныя кабелі ў зямлі выйшлі са строю, новыя не праклалі. Таму сувязі няма. Добра, што дарогі, якія вядуць у вёску, дагледжаныя. Па іх у суседнія Мірклішкі едуць за вадой. Гэта некалькі кіламетраў, а бліжэйшы тэлефон – у Бондацішках. Туды едуць за дапамогай, калі здарыцца пажар. Часам выкліканыя пажарныя прыязджаюць на папялішча: пабудова паспявае згарэць. Што будзе, калі чалавеку стане дрэнна?

Што такое вада для вяскоўцаў, не трэба тлумачыць. Іх корміць агарод, які трэба паліваць. У Тэрэсы і Станіслава Горадаў у пятніцу быў добры настрой: пасля дажджу назапасілі вады на дзень-два. І з суседзямі падзяліліся. Выжываць трэба разам. А то перазімавалі вельмі цяжка. Каму прывозілі ваду сваякі на машынах, іншыя ў кармушкі скацілі снег клалі.


«Дзе ўзяць вады?» – штодня думае Антон Ляшчэўскі са Скірдзімаў. Фота Ірыны РАБУШКІ

ў сельсавеце ведаюць, рыхтуецца спецыяльная праграма. Ёсць яшчэ 4 вёскі, у якіх няма вады.

### Замест каментарыя

Старшыня Крэўскага сельсавета Валянціна Грыгарава сказала, што гэтую праблему

Для скірдзімцаў варта прабурыць скважыну не менш за 30 метраў углыб. 1 метр бурэння каштуе 70 тысяч рублёў. Такім чынам, 30-метровая скважына абыдзецца за 2 мільёны рублёў. Бурэннем займаюцца мінскія спецыялісты.

В.Грыгарава мяркуе, што на спусташэнне калодзежаў магла паўплываць меліярацыя 30-гадовай даўнасці ці апошнім часам засушлівыя гады. Калі рэалізуецца новая праграма — невядома.

Калгас "Кастрычніцкі", у якім скірдзімцы адпрацавалі амаль усё жыццё, па словах Валянціны Грыгаравай, таксама дапамагчы не можа. Яна спадзяецца, што вяскоўцам могуць дапамагчы іх дзеці.

**Юрый КАРПІЦКІ, Ірына РАБУШКА.**

### Расклад цягнікоў

Сёння мы друкуем летні расклад руху пасажырскіх цягнікоў па станцыі Маладзечна. Расклад руху прыгарадных цягнікоў быў змешчаны ў мінулым нумары.



4-я старонка

### Лёс гімназісткі



Маладзечанка Рэгіна Астравух афіцыйна атрымала статус ветэрана другой сусветнай вайны толькі ў 2000-м годзе.

8-я старонка

### Складзі карцінку



Новы конкурс ад "Рэгіянальнай газеты". На гэты раз прапануем чытачам скласці карцінку з фрагментаў, якія будуць апублікаваныя.

10-я старонка

■ НАШЫЯ ГРОШЫ

# Майскія вынікі

**Сёлетні май азнаменаваўся заканчэннем пасяўной, прыходам сапраўднага лета пасля позняй вясны, мноствам розных падзей. Але пачнём з аналізу стану грашовага рынку.**



Рысунак Валерыя ЧУГЛАЗАВА.

У маі базавая стаўка заработнай платы была павялічана з 13300 да 14000 рублёў, стаўка першага разраду – з 26500 да 28000 рублёў. Значыць, на 5% павышаюцца аклады бюджэтнікам, дапамогі па беспрацоўі і стыпендыі студэнтам. Згодна са статыстычнымі дадзенымі, сярэдняя заработная плата работнікаў па краіне склала 233 тысячы рублёў. Лічбы ўражваюць, засмучае толькі рост цэн – са студзеня яны падымаліся ў сярэднім на 2,5% у месяц. Адпаведна, падае і наша валюта – за месяц беларускі рубель страціў амаль 50 рублёў, што азначае прыкладна тыя ж 2,5% у месяц дэвальвацыі і ў цэлым адпавядае асноўным параметрам грашова-крэдытнай палітыкі Нацыянальнага банка на сёлетні год.

Згодна з гэтым, на 1.07.2003 г. курс долара не павінны быць вышэй 2078 беларускіх рублёў. Пакуль сітуацыя на фінансавым рынку знаходзіцца пад кантролем дзяржавы – з другога паўгоддзя Нацбанк плануе дазволіць разлікі ў расійскіх рублях паміж беларускімі суб'ектамі гаспадарання. Хутчэй за ўсё, з гэтага ж часу будзе адменены і абавязковы продаж нашымі прадпрыемствамі экспартнай выручкі ў расійскіх рублях. Усе гэтыя меры дапускаюць плаўна, але рашуча падысці да пазначанай на 1.01.2004 г. прывязкі беларускага рубля да расійскага. Поўная ўпэўненасць у стабільнасці нацыянальнай валюты і вялікая неабходнасць у танных грашовых рэсурсах падхліснула фінансавыя ўлады краіны да далейшага зніжэння стаўкі рэфінансавання – з 21 мая яна зніжана на 1%, да 34% гадавых. Як і ў папярэднія месяцы, гэта прывядзе да зніжэння ставак прыцягнення банкамі сродкаў фізічных асоб – стаўкі даходзяць ужо да 34-35%, што менш за 3% у месяц. Але ўкладчыкі па-ранейшым спяшаюцца ў банкі, каб расстацца са сваімі наяўнымі – уклады ўжо складаюць каля 900 мільярдаў рублёў у нацыянальнай валюце і 414 мільёнаў долараў – усяго ў агульнай складанасці па эквіваленту сума сродкаў насельніцтва, што захоўваецца на рахунках у банках, набліжаецца да аднаго мільярда долараў.

У маі здзівіў рост еўрапейскай валюты – курс еўра падабраўся да адзнакі ў 1,2 долара. Асаблівага аптымізму ў еўрапейцаў гэта не выклікае – іх тавары на сусветных рынках становяцца даражэйшымі.

А цяпер пра іншыя майскія падзеі. Зноў народ пацягнуўся на дачы – традыцыйнае месца адпачынку ад шматдзённых клопатаў. Позняя вясна толькі паскорыла працэс пасадкі; устаноўлены на апошнім тыдні мая тэмпературны рэкорд за 100-гадовы перыяд назіранняў (больш за 30 градусаў) хутка прымусіць усіх бегчы паліваць.

Успышка на Гродзеншчыне эпідэміі менінгіту нагадвае барацьбу з вірусам атыповай пнеўманіі ў Азіі.

Нават двухтыднёвы перапынак падачы гарачай вады не адцягнуў народ ад чаканай перамогі скандальна вядомай расійскай групы "Тату" на Рыжскім конкурсе для гаспадынь "Евровидение" – аднак не атрымалася, абышлі туркі.

У маі ў Нацыянальную бібліятэку былі вернутыя ўкрадзеныя месяц таму назад рэдкія кнігі. Чацвярых грабежнікаў затрымалі, ім "свеціць" ад 7 да 15 гадоў. Аказалася, што рэальна было ўкрадзена кніг больш, чым думалі бібліятэкары, – выяўлены яшчэ і іншыя старадаўнія кнігі са штампам бібліятэкі.

А яшчэ май быў адзначаны буйным юбілеем – 300 год споўнілася прыгожаму і адзінаму ў сваім родзе гораду свету – Піцеру. Віншуем усіх, хто пабываў там!

**Міхась АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 29.05 руб. | 6.06 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2039,00 | 2045,00 |
| Еўра | 2401,64 | 2400,42 |
| Злоты | 551,42 | 540,36 |
| Літ | 695,68 | 695,22 |
| Расійскі рубель | 66,59 | 66,48 |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 2030/2039 | 2030/2039 |

Маладзечна
## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 28.05 | 4.06 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 12200 | 12200 |
| Сасіскі, 1 кг | 4300 | 4300 |
| Селядзец, 1 кг | 2800 | 2800 |
| Рыс, 1 кг | 780 | 780 |
| Грэчка, 1 кг | 1450 | 1450 |
| Цукар, 1 кг | 1240 | 1280 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 900 | 900 |
| Алей, 1 л | 1750 | 1700 |
| Маянэз, 200 г | 450 | 470 |
| Кава «Пеле, 100 г | 2200 | 2200 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 750 | 800 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 680 | 750 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1100 | 1200 |
| Капуста, 1 кг | 980 | 800 |
| Морква, 1 кг | 1250 | 1350 |
| Лімоны, 1 кг | 2600 | 2600 |
| Апельсіны, 1 кг | 1850 | 1750 |

### Сялянскія прадукты

| | | |
|---|---|---|
| Малако, 1,5 л | 600 | 700 |
| Смятана, 1 л | 2000 | 2000 |
| Масла, 1 кг | 4400 | 4000 |
| Тварог, 1 кг | 1800 | 1600 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1400 | 1500 |
| Бульба, 1 вядро | 3000 | 3000 |
| Яблыкі, 1 кг | 1450 | 1750 |

■ РЫНАК

## Адкрыюць ці не?

**МАЛАДЗЕЧНА. 2 разы адкладвалася адкрыццё новага кілбаснага павільёна на калгасным рынку. Нарэшце стала вядома канкрэтная дата – 1 ліпеня. Так сцвярджае дырэктар гэтага рынку Ганна Сіняўская.**

Новы павільён разлічаны на 54 гандлёвыя месцы. 10 з іх будуць для сябе раённае спажывецкае таварыства. Астатнія месцы – 30 індывідуальных прадпрымальнікаў. Адно гандлёвае месца абыходзіцца ім у 4 мільёны 240 тысяч рублёў. Ёсць прадпрымальнікі, якія будуюць сабе па тры месцы. Г.Сіняўская гаворыць, што грошы прадпрымальнікам вернуцца праз 5 гадоў, бо на працягу гэтага часу яны будуць штомесяц плаціць за месца на 50% менш.

Ужо цяпер бачна, што гэта сучасны павільён. Яго абсталююць беларускімі халадзільнымі вітрынамі, апрацоўчымі столікамі, халадзільнікамі для запасаў, ларамі (нізкатэмпературнымі халадзільнікамі) для продажу кумпячкоў. Плошча 6 квадратных метраў, якая павінна прыходзіцца на аднаго гандляра, ужо вытрымана. У цяперашнім кілбасным павільёне яна меншая ўдвая, што не адпавядае санітарным нормам. Увогуле, там не хапае гандлёвых месцаў – іх 24.

Пасля тут будуць прадаваць рыбу, адвядуць месца для вясковых малака, масла, смятаны. Бо цяперашнія "рыбныя" і "малочныя" гандлёвыя рады не адпавядаюць санітарным нормам. У новым кілбасным павільёне наладзяць продаж гатовай кілбаснай прадукцыі і кумпячкоў глыбокай замарозкі. Г.Сіняўская гаворыць, што да новага года цяперашні кілбасны павільён адрамантуюць і абодва будуць з гарачай вадой.

**Ірына РАБУШКА.**

■ ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

## Не верылі!

**Рэдакцыя нашай газеты правяла сярод сваіх чытачоў анкету, вынікі якой дапамагаюць нам паляпшаць сваё выданне. Сярод тых, хто прыняў удзел у анкетаванні, мы разыгралі свае фірменныя майкі. Таццяна Зямцова з Мільчы, што ў самым паўночна-ўсходнім куце Вілейшчыны, папрасіла, каб мы даслалі ёй прыз. «Я пашкодзіла нагу, - скардзілася чытачка,- і прыехаць цяпер не магу. Прашу вас, калі гэта магчыма, вышліце мне майку». Зроблена гэта было адразу. І вось на рэдакцыйным стале ізноў ліст з Мільчы:**

Паважаная рэдакцыя “Рэгіянальнай газеты”! Вялікі дзякуй за тое, што вы выслалі мне падарунак – майку. Я вельмі вам удзячная. Некаторыя людзі ў нашай вёсцы гаварылі мне, што я нічога не атрымаю, і нават раілі зняць копію на ксераксе і паслаць у рэдакцыю, а арыгінал пакінуць сабе. Але я давяраю людзям. І сёння, калі атрымала па пошце майку, я ішла па вуліцы і ўсім казала: “Вось майку мне прыслалі з газеты, а вы не верылі!”.

Я жадаю ўсім вам здароўя, шчасця, пабольш падпісчыкаў газеце і ўсяго самага добрага.

**Таццяна ЗЯМЦОВА,**
**в.Мільча**
**Вілейскага раёна.**

■ ПАДПІСКА-2003

# Будзь у нашай кампаніі!

**Пачалася падпіска на «РГ» на трэці квартал і другое паўгоддзе.**

**Цяпер вы маеце магчымасць зрабіць гэта так:**

- падпісацца ў любым паштовым аддзяленні;
- падпісацца ў рэдакцыі (Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а)
- падпісацца дома, запрасіўшы да сябе паштальёна (паслуга бясплатная) - тэлефануйце ў гарадское аддзяленне сувязі, якое вас абслугоўвае:

**Маладзечна:**
1-е - тэл. 7-02-64 (вул. Замкавая, 18);
3-е - тэл. 7-17-20 (вул. Вакзальная, 1);
4-е - тэл. 5-26-81 (Вялікі Гасцінец, 56);
6-е - тэл. 7-02-44 (вул. Прытыцкага, 18);
7-е - тэл. 5-45-13 (вул. Ф. Скарыны, 21).
**Тэлефон для даведак 7-05-73** (аддзел падпіскі).

**Вілейка:**
1-е - тэл. 5-80-39 (вул. Талстога, 55);
2-е - тэл. 3-31-39 (вул. Дабравольскага,2);
4-е - тэл. 5-55-39 (вул. 17 Верасня, 30).
**Тэлефон для даведак 5-64-68** (аддзел падпіскі).

**Смаргонь:**
1-е – тэл. 2-23-11 (вул. Перамогі)
2-е – тэл. 2-22-11 (вул. Танкістаў,1)
4-е – тэл. 3-64-10 (вул. Завадская)
5-е – тэл. 5-39-70 (вул. Сініцкага)
**Тэлефон для даведак 2-14-65** (аддзел падпіскі).

**Валожын:**
1-е – тэл. 5-52-37 (вул. 1 Мая, 3)
2-е – тэл. 5-87-53 (вул. Чапаева)
**Тэлефон для даведак 5-54-57** (аддзел падпіскі).

**Мядзел**
Тэл. 5-52-66 (вул. 17 Верасня, 3)
**Тэлефон для даведак 5-47-52** (аддзел падпіскі).

**Рэдакцыя «РГ».**




**«Рэгіянальная газета» – незалежны погляд на жыццё рэгіёну, матэрыялы па эканоміцы, культуры, гісторыі, тэматычныя старонкі, конкурсы з прызамі, укладка з праграмай, карысная рэклама і аб’явы.**

**Індывідуальная падпіска:** індэкс 63212, кошт на месяц **2000** руб.
**Ведамасная падпіска:** індэкс 63369, кошт на месяц **5941** руб.

## Расклад руху пасажырскіх цягнікоў па станцыі Маладзечна з 25 мая 2003 года

| Маршрут | Адпр. з пачатк. ст. | Па ст. Маладзечна прыб. | ст. | адпр. | Прыб. на кан. ст. | Дні курсіравання |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Унеча – Гродна | 12-36 | 0-40 | 4 | 0-44 | 5-51 | няцот. |
| Віцебск – Гродна | 18-00 | 0-40 | 4 | 0-44 | 5-51 | цот. |
| Масква – Калінінград | 14-05 | 0-54 | 3 | 0-57 | 11-15 | штодзённа |
| Калінінград – Масква | 15-16 | 1-44 | 3 | 1-47 | 15-29 | з 26/5 па 6/9 штодз., з 7/9 па няцот. |
| Калінінград – Гомель | 18-18 | 4-24 | 3 | 4-27 | 11-15 | цот. |
| Масква – Гродна | 16-54 | 4-44 | 6 | 4-50 | 10-11 | штодзённа |
| Рыга – Гомель | 18-10 | 5-10 | 25 | 5-35 | 12-51 | няцот. |
| Масква – Каўнас | 19-01 | 5-20 | 3 | 5-23 | 11-00 | штодзённа |
| Чэлябінск – Калінінград | 22-00 | 5-45 | 4 | 5-49 | 16-14 | 13, 21/6, 1, 11, 19, 29/7, 8, 16, 26/8, 5/9 |
| Полацк – Мінск | 0-56 | 5-46 | 27 | 6-13 | 8-10 | штодзённа |
| Масква – Калінінград | 19-16 | 6-35 | 4 | 6-39 | 17-16 | з 27/5 па 7/9 штодз., з 8/9 па цот. |
| Мінск – Вільнюс | 6-33 | 7-53 | 5 | 7-58 | 11-05 | з 30/5 па серадах, пятніцах, нядзелях |
| Вільнюс – Мінск | 6-26 | 9-12 | 3 | 9-15 | 10-31 | штодзённа |
| С.-Пецярбург – Калінінград | 18-13 | 9-26 | 18 | 9-44 | 20-09 | з 5/6 па 6/9 штодз., з 7/9 па няцот. |
| Гродна – Мінск | 6-36 | 10-45 | 4 | 10-49 | 12-00 | штодз., бесперасадачны вагон Гродна – С.-Пецярбург па няцот. |
| Мінск – Гродна | 16-16 | 17-28 | 3 | 17-31 | 22-03 | штодзённа |
| Калінінград – Чэлябінск | 7-35 | 18-01 | 5 | 18-06 | 5-48 | 7, 15, 25/6, 5, 13, 23/7, 2, 10, 20, 30/8 |
| Мінск – Полацк | 17-08 | 18-29 | 26 | 18-55 | 23-29 | штодзённа |
| Вільнюс – Мінск | 16-10 | 19-06 | 4 | 19-10 | 20-33 | з 30/5 па серадах, пятніцах, нядзелях |
| Мінск – Вільнюс | 18-17 | 19-44 | 3 | 19-47 | 22-40 | штодзённа |
| Калінінград – Масква | 9-53 | 20-08 | 4 | 20-12 | 9-30 | штодзённа |
| Каўнас – Масква | 15-15 | 20-54 | 3 | 20-57 | 9-37 | штодзённа |
| Харкаў – Калінінград | 0-50 | 21-12 | 5 | 21-17 | 7-52 | няцот. |
| Гродна – Унеча | 15-30 | 21-20 | 5 | 21-25 | 11-43 | няцот. |
| Гродна – Віцебск | 15-30 | 21-20 | 5 | 21-25 | 5-03 | цот. |
| Калінінград – С.-Пецярбург | 11-38 | 21-59 | 17 | 22-16 | 13-48 | з 3/6 па 4/9 штодз., з 5/9 па няцот. |
| Гродна – Масква | 16-47 | 22-13 | 4 | 22-17 | 11-02 | штодзённа |
| Гомель – Рыга | 15-38 | 22-30 | 25 | 22-55 | 10-12 | няцот. |
| Калінінград – Харкаў | 12-48 | 23-09 | 5 | 23-14 | 19-26 | цот. |
| Гомель – Калінград | 16-46 | 23-42 | 5 | 23-47 | 10-11 | цот. |
| Рыга – Сімферопаль | 16-00 | 1-12 | 5 | 1-17 | 13-04 | з 9/6 па 9/9 па няцот. |
| Сімферопаль-Рыга | 16-30 | 2-14 | 3 | 2-17 | 11-25 | з 12/6 па 12/9 па цотн. |

■ КОНКУРСЫ

## Збяры карцінку

**Вітаем вас, шаноўныя аматары конкурсаў. Сёння мы пачынаем новы конкурс “Збяры карцінку”.**

Аб умовах конкурсу чытайце на 10-й старонцы. Купляйце нашу газету на працягу лета, і вы зможаце стаць пераможцам!

**Рэдакцыя.**

■ КОНКУРСЫ

## Атрымаюць падпіску

Як мы і абяцалі, пераможцы нашага конкурсу сярод падпісчыкаў на першае паўгоддзе 2003 года **М.А.Мішковіч** з Маладзечна, **Дзмітры Вінаградаў** з Мядзела, маладзечанка **Ганна Космач**, віляйчанка **Алена Сяліцкая**, маладзечанцы **Н.П.Яскевіч** і **Я.І.Кавяка**, **Ала Каросцік** з Вілейкі, **А.В. Пачкоўскі** з Мядзела, **Марына Дзядзёла** з Вілейкі і маладзечанка **Данута Конаўка** будуць атрымліваць у трэцім квартале гэтага года “Рэгіянальную газету“ бясплатна. Гэтых чытачоў падпісала на штотыднёвік рэдакцыя “Рэгіянальнай газеты“.

**Рэдакцыя.**

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

АБАНЕМЕНТ НА ГАЗЕТУ

63212 (63369)
(індэкс выдання)

Рэгіянальная газета

Колькасць

На 2003 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ________ (індэкс) ________ (адрас)

Каму ________ (прозвішча, ініцыялы)

---

ПВ | месца | літара

63212 (63369)
(індэкс выдання)

ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА НА ГАЗЕТУ

Рэгіянальная газета

Кошт | падпіскі | | Колькасць

На 2003 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ________ (індэкс) ________ (адрас)

Каму ________ (прозвішча, ініцыялы)

# Польскі выбар – рэферэндум

**У дэмакратычным грамадстве лёсавызначальныя рашэнні ў краіне, калі дзяржава стаіць перад выбарам, прымаюцца ўсенародна. Улічваючы, што ў нашай краіне ўжо амаль дзесяцігоддзе агульным галасаваннем нічога не вырашаецца (паказныя выбары дэпутатаў пад наглядам мэраў і пад наказам начальства не ў лік), прааналізаваць сітуацыю са стратэгічным выбарам народа можна на прыкладзе суседзяў, напрыклад, той жа Польшчы. Тым больш, што перад выбарам палякі апынуцца ў бліжэйшыя выхадныя: 7-8 чэрвеня ў краіне адбудзецца рэферэндум па ўступленні ў Еўрапейскае супольніцтва.**




**У суботу–нядзелю Польшча робіць свой выбар. Палякі мусяць сказаць “так“ або “не“ ўваходжанню ў Еўрапейскі Саюз. Сацыёлагі схільныя меркаваць, што грамадзяне Польшчы скажуць цвёрдае “так“, якое ў гэтым кантэксце будзе гучаць як “не“ вяртанню ў сацыялістычныя часы. Нават ў эпоху саавецкага панавання ва Усходняй Еўропе палякі мелі смеласць уголас заяўляць сваю нязгоду с савецкім дыктатам. Аднак мастакі ж з краіны з–за Буга пакуль усміхаюцца.**

Рысунак Шчапана САДУРСКАГА.

Калі палякі прагаласуюць станоўча, то, згодна з дагаворам ад 16 мая, менш чым праз год, а менавіта з 1 мая 2004 года Польшча далучыцца да адзінай Еўропы. Згодна з польскім заканадаўствам, яўка павінна быць не менш за 50% тых, хто мае права голасу. Калі ж да выбарчых урнаў прыйдзе менш выбаршчыкаў, то будзе неабходна рашэнне не менш за 2/3 дэпутатаў Польскага сейма. Кожная краіна-кандыдат (уступаюць 10 дзяржаў) уваходзіць у ЕС на індывідуальных умовах, абмеркаванне якіх працягвалася доўгія месяцы. Прыбалтыйскія дзяржавы даволі лёгка згадзіліся на ўмовы ЕС. У той жа час перагаворы з Польшчай былі больш складаныя – яна выступала за значнае павелічэнне субсідый польскім фермерам. Некаторыя ўступкі зроблены палякам для пакупкі зямлі іншаземцамі, ёсць і іншыя. Польшча, якая мае традыцыйна моцныя каталіцкія традыцыі, заявіла, што ўступленне ў ЕС не павінна паўплываць на яе законы, якія рэгулююць пытанні маралі і абароны чалавечага жыцця. Палякі не апошнія з краін-кандыдатаў ідуць да выбарчых урнаў.

Згодна з графікам правядзення рэферэндумаў, свой выбар ужо зрабілі жыхары Эстоніі і Мальты. Аналітыкі не сумняваюцца ў перамозе прыхільнікаў саюза з ЕС – па дадзеных апытанняў за ўступленне гатовы прагаласаваць каля 66%, 23% апытаных выступаюць супраць, 11% яшчэ не вызначыліся. У Польшчы даволі ўплывовыя колы, якія лічаць, што членства ў ЕС нясе сур'ёзныя эканамічныя цяжкасці. Сапраўды, ёсць асцярога – затраты вытворцаў непазбежна ўзрастуць у сувязі з павышанымі патрабаваннямі да якасці прадукцыі і ўзроўню заработнай платы, якія дзейнічаюць у еўрапейскіх краінах. У Польшчы баяцца, што спецыялісты высокага ўзроўню ў пошуках лепшай долі будуць пакідаць краіну. Да таго ж, палавіна ўладальнікаў малых і сярэдніх польскіх фірм баіцца росту канкурэнцыі ад буйных гігантаў-вытворцаў і гіпермаркетаў. У сувязі з гэтым набывае асобую важнасць пытанне: колькі працэнтаў набяруць прыхільнікі адзінай Еўропы – 53%, напрыклад, ці 82%. Уладам жа прыйдзецца лічыцца з выбарам грамадзян. Тым больш, што Польшча ўжо аднойчы азадачыла ўсіх еўрапейскіх аналітыкаў, аддала перавагу не Леху Валэнсу, а маладому сацыял-дэмакрату Аляксандру Квасьнеўскаму. Хаця тады ўсе прадказвалі перамогу прэзідэнту Валэнсу.

Як прагаласуюць палякі – важна і для нас, для беларуска-польскіх адносін, якія і так нельга назваць добрымі. Прыклад, зімовыя страсці па абмежаванні дазволенага ўвозу колькасці паліва на граніцы ў Польшчу. Цяпер жа мы стаім на парозе ўвядзення поўнамаштабнага візавага рэжыму для грамадзян дзвюх краін з 1 ліпеня гэтага года. Кошт аднаразовай візы для грамадзян Беларусі вызначаны ў 10 еўра, для расіян – у 40 еўра, шматразовая гадавая віза – 40 еўра. Візы пасольства і консульства будуць выдаваць за 5 дзён, тэрміновыя – за 48 гадзін. Мяркуецца, што бязвізавы транзіт у краіны Шэнгенскай зоны, у Чэхію і Славакію застанецца. Аб ільготах для жыхароў прыгранічных рэгіёнаў дагаварыцца не ўдалося.

Мы хоць і краіны-суседзі, але не сябры. Для Польшчы сябрам з'яўляецца толькі Амерыка – адзіны надзейны гарант свабоды і незалежнасці дзяржавы. Нават Германія і Вялікабрытанія, з якімі ў палякаў добрыя шматгадовыя адносіны, — усяго толькі партнёры. Гэта праявілася і ў адносінах еўрапейскіх краін да рашэння Вялікабрытаніі і ЗША пачаць антыхусейнаўскую вайну ў Іраку – палякі амаль першымі падтрымалі саюзнікаў. За падтрымку краіны-пераможцы вывелі Польшчу на авансцэну сусветнай палітыкі – палякам дадзена права кантраляваць адзін з трох сектараў акупіраванага Ірака плошчай 80 тысяч квадратных кіламетраў. Дадаткова Варшаве абяцалі вяртанне іракскіх даўгоў на суму 800 мільёнаў долараў і іншых выгадных кантрактаў па здабычы нафты для польскага нафтавага гіганта “Нафта Польска”. Да таго ж, умацоўваецца супрацоўніцтва Польшчы і ЗША ў ваеннай галіне. На старой савецкай авіябазе ў Кшэсінах размесціцца авіядывізія, якая перадыслакуецца з Германіі. Палякі далі згоду на пакупку эскадрыллі амерыканскіх знішчальнікаў F-16, хаця купляюць, бывае, самалёты і радары ў Францыі, Вялікабрытаніі, Італіі і Іспаніі. Палякі скрупулёзна падлічылі, што размяшчэнне ў Польшчы трох дывізій з Германіі дапаможа стварыць больш за 20 тысяч рабочых месцаў, прыцягне ў краіну 20 мільярдаў долараў інвестыцый, прыбытак ад размяшчэння кожнай базы складзе, па іх разліках, каля 150 мільёнаў долараў у год. Аднак альянс Варшава-Вашынгтон нельга ўспрымаць як аднабокі з ухілам на ЗША. Амерыка заўжды ўважліва сачыла за становішчам у гэтай краіне – у ЗША пражывае каля 20 мільёнаў выхадцаў з Польшчы, якія эмігрыравалі ў краіну за паўтара стагоддзя. Амерыканцы не могуць не ўлічваць гэты фактар. У адрозненне ад Заходняй Еўропы Амерыка ніколі не здрадзіла Польшчы, у гады “халоднай вайны” амерыканцы фінансавалі дзейнасць антыкамуністычных радыёстанцый і дысідэнтаў. Пасля аб'яўлення ваеннага становішча ў Польшчы 13 снежня 1981 года былы прэзідэнт ЗША Рэйган запаліў у акне свайго кабінета ў Белым доме свечку – польскі сімвал супраціўлення. Дзякуючы падтрымцы ЗША ў 1999 годзе Польшча разам з Венгрыяй і Чэхіяй была прынятая ў НАТО. Пабываўшы ў канцы мая ў Кракаве прэзідэнт ЗША Буш у чарговы раз назваў Польшчу “блізкім сябрам”. У свой час сусветныя крэдыторы даравалі Польшчы ўсе яе даўгі камуністычных часоў. У свеце прадстаячага ўступлення Польшчы ў ЕС, а з 2006 года і ў Шэнгенскую зону, гэтай краіне прадвызначана асобая роля фарпоста адносін Еўропы і альянса Расіі і Беларусі. Адносіны з Беларуссю будуць надзвычай важныя, бо польскаму бізнесу ў сваёй краіне становіцца цесна, канкурэнцыя гоніць бізнесменаў пашыраць экспарт. Тым больш, што Еўрасаюз абяцае падтрымку прадпрыемствам-экспарцёрам.

Да таго ж, многія заходнія кампаніі імкнуцца на наш рынак, праходзяць праз свае польскія даччыныя структуры. Прыкладаў даволі паспяховага супрацоўніцтва хапае — зборачная вытворчасць МТЗ у Польшчы, 4 прадстаўніцтвы беларускіх банкаў, вядзецца работа па стварэнні зборачных прадпрыемстваў на МАЗе і заводзе “Атлант”. Аднак супрацоўніцтву перашкаджае галоўнае – наша адсталасць. Мы адсталі ў эканоміцы, палітыцы, сацыяльнай сферы, у адсутнасці рэформ, прыватызацыі і працягваем таптацца на месцы і далей. А палякі рухаюцца наперад – эканамічны рост за 10 гадоў склаў 55%. Залогам паспяховых рэформ стала эфектыўна праведзеная прыватызацыя – за 10-годдзе ад яе атрымана 10 мільярдаў долараў у бюджэт. Прыватная ўласнасць стала асновай стварэння ў краіне сярэдняга класа і гарантам свабоды ў дэмакратычным грамадстве.

У іх усё не так, як у нас. Не абыходзіцца, у адрозненне ад нас, без скандалаў. Вясной сам кіраўнік дзяржавы даваў паказанні па карупцыйнай справе сумай 17 мільёнаў долараў — столькі, год назад, па сцвярджэнні “Газеты Выборчай”, папрасіў у яе рэдактара, у мінулым вядомага дысідэнта, Адама Міхніка адзін з кінапрадзюсераў за абяцанне станоўча вырашыць пытанне па ўнясенні змяненняў у законапраект аб тэле-радыёвяшчанні. Разбор ішоў адкрыта і галосна – Міхніку прыйшлося вытрымаць 18-гадзінны допыт, які трансляваўся ў прамым тэлеэфіры з вялізным рэйтынгам. Шумам закончыўся нядаўні разбор па адным з замежных грантаў на польскія бібліятэкі – з выдзеленай фондам сумы ў 365 тысяч злотых бібліятэкам дасталося толькі 20 тысяч, астатняе пайшло бухгалтарам з памочнікамі, кансультантам, каардынатарам, асістэнтам, праграмістам. У адрозненне ад нашага прэзідэнта, яго польскі экс-калега нядаўна зголіў вусы. Вядомы ў мінулым электрык – лідэр прафсаюза “Салідарнасць” і экс-прэзідэнт краіны Валэнса насіў вусы, якія ўспрымаліся мільёнамі людзей як фірменны знак. У свой час не ўступіў нават адной кампаніі, якая выпускала машынкі для галення і прапанавала яму за ўдзел у рэкламным галенні 1 мільён долараў.

Палякам прадстаіць на днях цяжкі выбар – раздзяленне Еўропы на Заходнюю і Усходнюю ўжо ў мінулым. Еўрапейскі Саюз – гэта не толькі агульны рынак, агульная палітыка, адзіная свабода і свабора перамяшчэння. Гэта яшчэ і агульныя каштоўнасці свабоды, дэмакратыі, гуманізму, адказнасці. На жаль, на кантыненце, акрамя нашага ўсходняга суседа, хутка па-за адзінай Еўропай можа застацца толькі наша Беларусь.

**Міхась АЛЕСАНДРОВІЧ.**

## Сімвалы Польшчы

**Белы Арол, Вавель у Кракаве, мазурка – усё гэта сімвалы Польшчы. Але акрамя гэтых сімвалаў, ёсць Пілсудскі, Андэрс, Ґамулка... Ёсць Ярузэльскі і Валэнса.**

Войцэх Ярузэльскі, які ў 1981 годзе ўзяў на сябе смеласць увесці ў Польшчы ваеннае становішча, заўсёды быў зацятым камуністам. Гэта ён у 1970 годзе ўдзельнічаў у падаўленні выступленняў пралетарыяў на Балтыйскім узбярэжжы. Менавіта тады над Польшчай пачала ўзыходзіць зорка Леха Валэнсы – маладога электрыка суднаверфі з не вельмі мілагучным прозвішчам (валэнса па польску азначае валацуга, бадзялы чалавек). Але нягледзячы на прозвішча, Польшча запомніла маладога і настырнага рабочага Лешака. Менавіта таму, калі ў пачатку 80–х Лех Валэнса быў інтэрніраваны вайсковымі ўладамі, хутчэй за ўсё са згоды Ярузэльскага, палякі прымаўлялі: Нех пан Лешак се не боі – за нім цала Польска стоі.

Ярузэльскі і Валэнса апынуліся па розныя бакі барыкад. Ды яны і не былі ніколі аднадумцамі.

Час робіць сваю справу. Праз некаторы час, нягледзячы на розныя абвінавачванні Ярузэльскага, грамадская думка была схільная таксама палічыць яго за выратавальніка Радзімы. Каб не Ярузэльскі, і сёння такое сцвярджаюць многія, Польшчы было б не абмінуць сутыкненняў з савецкімі танкамі, чые гусеніцы ведаюць брукаваныя вулачкі чэшскай Прагі. У любым выпадку – Ярузэльскі адзін з самых відавочных сімвалаў сучаснай Польшчы, як і Валэнса.

Час робіць сваю справу, можна сказаць, яшчэ і таму, што сёння і Ярузэльскі, і Валэнса выказаліся за ўступленне Польшчы ў Еўрапейскі Саюз.



**– Еўрасаюз, – кажа Ярузэльскі ў сваім інтэрв'ю “Газэце выборчай“, – гэта шанц для Польшчы. Усіх, з кім разам прайшлі доўгую, цяжкую дарогу, горача заклікаю, каб прынялі ўдзел у рэферэндуме і галасавалі “за“.**



**Валэнса: – Перамаглі камунізм, перамаглі ворага, якога выгналі на ўсход і які прыняў нашую праграму: накірунак Захаду, НАТО і Еўрасаюза. Урэшце, робім тое, аб чым доўгі час марылі...**

**Мікола ГАЙДУК.**

■ ВЫТВОРЦЫ

# Volkswagen AG – народная марка

**“Фольксваген АГ“ (Volkswagen AG), нямецкі аўтамабільны канцэрн. Вырабляе легкавыя аўтамабілі, грузавікі, мікрааўтобусы. Штаб–кватэра знаходзіцца ў Вольфсбурзе.**

У 1934 годзе Фердынанд Паршэ, вядомы нямецкі канструктар, атрымаў заказ ад нацыянал–сацыялістычнага ўрада Германіі на распрацоўку сучаснага легкавіка.

### Год нараджэння – трыццаць пяты

І ўжо ў 1935 годзе такі аўтамабіль быў зманціраваны. Ён атрымаў назву “Фольксваген“, што даслоўна ў перакладзе з нямецкай азначае “народны аўтамабіль“. Пасля двухгадовых выпрабаванняў у 1937 годзе была запушчаная серыя “VW30“, а да 1938 года аўтамабіль набыў вядомы многім пакаленням знешні выгляд. Фольксваген адразу ацанілі канструктары, інжынеры і вадзіцелі. Пра яго загаварылі, з'явіліся шматлікія публікацыі, у 1938 годзе ў артыкуле New York Times «Фольксваген» ахрысцілі за знешняе падабенства Жуком. Гэтая мянушка настолькі прыжылася, што стала візітнай карткай аўтамабіля.

Для вытворчасці “народнага аўтамабіля“ 26 мая 1938 года ў горадзе Вольфсбург пачалося будаўніцтва буйнейшага еўрапейскага аўтазавода “Фольксваген“. Але вайна, якая насоўвалася, перашкодзіла наладзіць выпуск гэтага аўтамабіля. Іх было зроблена ўсяго тузін. Аўтамабіль вельмі падабаўся фашысцкім кіраўнікам. На ім з задавальненнем раз'язджаў сам Гітлер.

У часы другой сусветнай вайны работы па будаўніцтве “Фольксвагена“ былі прыпынены, а недабудаваны завод перапрафіляваны на вытворчасць ваеннай прадукцыі.

### Пад кантролем Англіі

Пасля заканчэння вайны прадпрыемства патрапіла пад кантроль англічан, у чыёй зоне акупацыі знаходзіўся Вольфсбург. Восенню 1945 года англійскія ўлады перадалі заводу заказ на 20 тысяч аўтамабіляў. Але толькі амаль праз 10 год пачалася серыйная вытворчасць аўтамабіля ў яго першапачатковай мадыфікацыі. У 1947 годзе “Фольксваген“ быў выстаўлены на экспартным кірмашы ў Гановеры і прыцягнуў да сябе вялікую ўвагу. Завод атрымаў першы замежны заказ з Галандыі на 1000 аўтамабіляў, а ў 1948 годзе сталі паступаць заказы са Швецыі, Бельгіі, Швецыі і іншых краін.

У студзені 1948 года змянілася кіраўніцтва “Фольксвагена“, яго генеральным дырэктарам стаў Генрых Нардхоф, прадстаўнік новага пакалення нямецкіх тэхнакратаў. Абнаўленае кіраўніцтва складалася з дыпламаваных інжынераў, якія валодалі міжнародным досведам работы на аўтазаводах і ўмелі нестандартна думаць. З іхнім прыходам аўтамабіль быў удасканалены і мадэрнізаваны. У 1949 годзе пачалі выпускаць мадэлі з новым тыпам кузава – кабрыялет і лімузін. У серыйнай вытворчасці абсталяванне салона стала больш камфартабельным, устанавіліся часткова сінхранізаваны рухавік.



Гэты малышок Жук зрабіў вядомым на ўвесь свет “Фольксваген“ Тысячы сямей лічылі папросту яго сваім паўнапраўным членам. І сёння яшчэ нават на нашых дарогах зрэдзьчасу можна ўбачыць працавітага Жучка.

Фота з архіва “РГ“.

Была наладжаная сетка аўтасэрвісу і тэхнічных станцый па абслугоўванні аўтамабіля. Пастаянна вялася работа з заходнімі кліентамі. “Фольксваген“ стварыў магутную сетку збыту аўтамабіляў.

Экспарт аўтамабіля, які атрымаў сусветную вядомасць, да канца 1948 года склаў каля 50 тысяч машын, на ўнутраным рынку было прададзена каля 15 тысяч.

### Ёсць мільён!

Да гэтага часу завод знаходзіўся ад саюзніцкага кантролю англічан, і 6 верасня 1949 “Фольксваген“ быў поўнасцю перададзены Федэратыўнай Рэспубліцы Германіі.

Пачаўся новы этап развіцця завода, які перш за ўсё быў адзначаны інтэнсіўным нарошчваннем вытворчасці і павелічэннем збыту.

Да 1950 года было выпушчана 100 тысяч аўтамабіляў, да 1951 – 500 тысяч, а 5 жніўня 1955 года адбылася ўрачыстая цырымонія з нагоды выпуску мільённага “Фольксвагена 2“. Дэвізам гэтага часу ў жыцці немцаў становіцца папулярная фраза, звязаная з “Фольксвагенам“, – “Ён член маёй сям'і“.

Праверaная часам надзейнасць і даступная цана машыны ўзмацнілі экспартныя магчымасці аўтамабіля. “Фольксваген“ прадаецца ўжо ў 150–ці краінах свету. З'яўляюцца дачыныя фірмы за мяжой – у 1953 годзе ў Бразіліі, у 1956 у Паўднёва-Афрыканскай Рэспубліцы, у 1957 годзе ў Аўстраліі, у 1964 у Мексіцы (тут з 1998 года выпускаецца новы Жук, які станавіўся хітом у галівудскіх зорак) і іншых краінах.

### «Аўдзі» – дачка «Фолькса»

У сярэдзіне 1960–х гадоў “Фольксваген“ купіла ў іншай буйной фірмы “Даймлер Уніян АГ“ прадпрыемства “Аута Уніян ГмбХ“, што дазволіла пачаць распрацоўку мадэлі для набытай гандлёвай маркі Audi. У 1965 годзе была выпушчаная новая мадэль з чатырохтактным рухавіком і пярэднім прыводам пад традыцыйнай маркай Audi. У 1966 годзе з'явілася мадэль сярэдняга класа Audi 100, якая таксама карысталася поспехам. У цяперашні час “Аўдзі АГ“ – дачыная кампанія канцэрна “Фольксваген“, якой дадзеная поўная самастойнасць.

### Калі з'явіўся «Гольф»

Канец 60–х гадоў на сусветным аўтамабільным рынку звязаны з першым спадам, што не магло не адбіцца на стане справаў канцэрна “Фольксваген“. Каб выжыць, “Фольксвагену“ трэба было стварыць суперновую ўдасканаленую мадэль. І ў 1973–1974 гадах з'явіліся адразу тры новыя мадэлі – “Пасат“, “Гольф“ і “Сірока“, якія ў тэхнічных адносінах не мелі нічога агульнага з ранейшым “Фольксвагенам“. Мадэль “Гольф І“, якая з'явілася ў 1974 годзе, аказалася найбольш удалай: сучасная, эканамічная, надзейная, менавіта такая мадэль магла разварушыць міжнародны рынак. “Гольф“ азнаменаваў сабой новы этап канкурэнцыі ў вытворчасці класа кампактных аўтамабіляў, якія сталі называцца амаль афіцыйна “гольф–класам“. Калі за час распрацоўкі новых мадэляў у 1973–1974 гадах страты канцэрна перавысілі 800 мільёнаў нямецкіх марак, то ўжо ў 1975 годзе за кошт вялікага попыту на іх удалося кампенсаваць усе выдаткі.

Усяго за 3 гады пасля запуску “Гольфа І“ быў выраблены мільённы аўтамабіль гэтай маркі. У 1983 годзе пабачыў свет “Гольф ІІ“, а восем год пазней, у 1991 годзе, дэбютаваў “Гольф ІІІ“, які, як і папярэднія мадэлі, падтрымаў высокую рэпутацыю “Гольфа“. За 23 гады з пачатку выпуску было выраблена 17 мільёнаў гольфаў трох пакаленняў. У 1995–1996 “Гольф ІІІ“ лідзіраваў па колькасці продажаў у Еўропе. У 1997 годзе адбыўся дэбют “Гольф IV“, толькі ў першыя дні пасля якога было прынята больш за 60 тысяч заказаў. Чатыры заводы ў Вольфсбурзе, Брусэлі (Бельгія), Мозэлі і Брацiславе (Славакія) выпускаюць каля мільёна машын у год.

Цяпер канцэрн “Фольксваген“ – адзін з самых буйных па аб'ёмах продажу ў свеце, мае свае заводы ў 15 краінах свету, выпускае прадукцыю пад гандлёвымі маркамі “Фольксваген“, “Аўдзі“, “Шкода“, СЕАТ. Акрамя легкавікоў, завод таксама выпускае грузавікі, мікрааўтобусы. У склад канцэрна “Фольксваген“ уваходзяць: “Фольксваген АГ“, “Аўдзі АГ“, “СЕАТ С.А.“, “Шкода аўтомобілова“, “Фольксваген–Саксонія ГмбХ“.

**Мікола ГАЙДУК,**
**паводле Інтэрнэт.**

■ КОНКУРС

## Выйграй прыз

**Чарговы конкурс у “Рэгіянальнай газеце“ дазволіць вам выйграць прыз ад “РГ“ – 2 каністры маторнага масла.**

Адкажыце на наша пытанне.

**У якім годзе ўпершыню сышоў з канвеера аўтамабіль “Фольксваген Пасат“?**

Сярод тых, хто правільна адкажа на наша пытанне і дашле свой адказ на адрас рэдакцыі на паштоўцы з паметкай “аўтаконкурс“, будзе разыграны прыз: 4–літровыя каністры з высакаякасным маторным і прамывачным маслам ТНК. Вынікі конкурсу будуць аб'яўленыя праз месяц у чарговым выпуску “Аўта–мота“.

А пераможцам у папярэднім конкурсе аказаўся маладзечанец **Анатоль Шпілеўскі**. Мы пыталіся: як назвалі аўтамабіль, які пачалі выпускаць на аўтазаводзе FSO па ліцэнзіі і першы экземпляр якога сышоў з канвеера 6 лістапада 1951 года ў 14.00 па варшаўскім часе?

“Варшава–201“. Такі быў правільны адказ. Мы запрашаем Анатоля ў рэдакцыю атрымаць прыз. Віншуем!

**Мікола ГАЙДУК.**

■ ТЭХНІКА

## Буксіроўка аўтамабіля

**З многіх тысячаў дэталяў аўтамабіля хаця адна можа падвесці. Не страшна, калі вы ліквідуеце няспраўнасць. А раптам яна настолькі сур'ёзная, што справіцца на месцы з ёй немагчыма? Тут застаецца толькі адзін шанц – даехаць на буксіры.**

Вось чаму, кіруючыся ў дарогу, не забудзьце прыхапіць з сабой буксіровачны трос – надзею, часам адзіную і верную. Лепш, калі ён будзе нейлонавым. Такі трос займае мала месца, зручны ў карыстанні і, самае галоўнае, эластычны. Правіламі дарожнага руху абумоўленая і яго даўжыня – ад 4 да 6 метраў. Праз роўныя адлегласці на ім павінны быць замацаваныя тры–пяць флажкоў, добра бачных днём і ў начны час.

Перш чым пачаць калектыўны рух, трэба дамовіцца аб хуткасці і папераджальных сігналах. Указальнікамі паваротаў буксіроўшчык звычайна папярэджвае таго, каго буксіруе, аб манеўрах, а буксіруемы, у сваю чаргу, дубліруе сігнал, кажучы: “Твой сігнал зразумеў“. Гукавым сігналам або святлом фараў той або іншы папярэджвае аб вымушаным прыпынку, а некалькі частых загаранняў стоп–сігналаў буксіроўшчыка азначае, што магчыма тармажэнне.

У абавязковым парадку буксіроўшчык, пачынаючы рух, уключае бліжняе святло, а буксіруемы – агні аварыйнай сігналізацыі. Гэта неабходна для папярэджвання пешаходаў і транспарту.

Майстэрства руху ў сцэпцы палягае ў тым, што буксірны трос заўсёды павінен знаходзіцца ў нацягнутым стане. Тады рух будзе плаўным, без рыўкоў. Кратаючыся з месца, “цягач“ спачатку павінен асцярожна выбраць (нацягнуць) трос і, толькі адчуўшы, што буксіруемы аўтамабіль зрушыўся, даваць “газ“. Разганяцца і пераходзіць на іншую перадачу трэба плаўна і ў той самы час без затрымкі, каб не збавіць хуткасць.

Асабліва важна быць напагатове пры аб'ездах, паваротах, пад'ёмах і спусках, а калі на буксіроўшчыка ўскладаецца адказнасць пры аб'ездах і паваротах і ён ні на секунду не павінен забывацца аб “хвасце“, то буксіруемы ў такой самай меры ў адказе пры пад'ёмах і спусках. Ні рэзкіх тармажэнняў, ні пераключэнняў перадач не павінна быць. Пад'ём і спуск выконваюцца “на адным дыханні“. Пры перамяшчэнні ў буксіруемага абзор ніякавы, таму ён павінен рухацца змяшчаючыся да цэнтра дарогі. Вядома, у разумных межах.

Пры буксіроўцы іншамарак улічце наступныя асаблівасці. Аўтамабілі з аўтаматычнай каробкай перадач неабходна буксіраваць, калі рычаг выбару рэжыму знаходзіцца ў становішчы N. Хуткасць буксіроўкі – не больш за 50 км/г, а дальнасць буксіроўкі – не больш за 50 км. Поўнапрыводныя аўтамабілі буксіруюць з паднятым пярэднім або заднім мастом пры той самай хуткасці і на такую самую адлегласць.

**Алег МАЙБАРАДА.**

# Як выбраць акумулятар?

Чаму для адных акумулятар – крыніца электрычнасці, а для іншых – галаўнога болю? Адказ – відавочны – няправільны выбар. Цяпер мы не будзем гаварыць пра якасць, тады трэба было б пералічваць розныя маркі АКБ, даваць характарыстыкі. Мы прапануем падысці да выбару акумулятара, узброіўшыся агульнымі ўяўленнямі, чым адна АКБ адрозніваецца ад іншай.

## Канструкцыйныя характарыстыкі

1. Адрозніваюць два асноўныя тыпы АКБ: сухазараджаныя і залітыя–зараджаныя. Адразу скажам, сухазараджаны аматару не патрэбны. Складаны працэс прыгатавання і заліву можа сур'ёзна скараціць рэсурс вашай АКБ, калі хоць штосці зрабіць няправільна.

2. Далей адрозніваюцца: абслугоўваемыя і неабслугоўваемыя. Неабслугоўваемыя – тыя, якія не маюць даступных залівачных адтулін. Канечне, няблага ўвогуле не клапаціцца пра АКБ. Але для гэтага трэба мець аўтамабіль з абсалютна адладжаным электраабсталяваннем і ездзіць толькі па добрых дарогах. Найбольш распаўсюджаныя абслугоўваемыя або, як іх завуць, "малаўходныя". Яны маюць корак або планку, якія закрываюць адтуліны, праз якія можна заліваць дыстыляваную ваду да патрэбнага ўзроўню. Каб лягчэй было сачыць за ўзроўнем электраліту, лепш мець АКБ з паўпразрыстым бакам, каб бачыць узровень, а не запіхваць у залівачную адтуліну шчуп.

3. Сепаратары бываюць двух відаў: канвертны (кішэнь) і пласцінчаты. Канвертны мае шэраг значных пераваг:

- Папяраджвае замыканне пласцін пры абсыпанні актыўнай масы, прарастанні вокіслаў праз сепаратар;
- Стварае вакол пласцін ванну электраліту, папярэджваючы іхняе абсыпанне;
- Перашкаджае забруджванню электраліту, зніжаючы самаразрад АКБ.
- Ужыванне канвертных сепаратараў, разам з прымяненнем маласурмяністых свінцовых сплаваў, дазволіла павялічыць тэрмін службы АКБ з 2,5 да 5–6 гадоў.

Далей адрозніваюць:

1. АКБ са свінцова–сурмяністымі пласцінамі;

2. АКБ гібрыдныя, г.зн., тыя, якія маюць станоўчыя пласціны са свінцова–сурмяністых сплаваў, а адмоўныя – са свінцова–кальцыевых сплаваў, якія выкананыя па экспандэрнай тэхналогіі.

3. АКБ са свінцова–кальцыевымі пласцінамі. Прымяненне свінцова–кальцыевых сплаваў пры вырабе пласцін АКБ дае наступныя перавагі:

- Зніжаецца ўзровень выпадання сурмы ў электраліце, што істотна паніжае самаразрад;
- Наяўнасць кальцыю зніжае расход вады ў электраліце, што перашкаджае абсыпанню пласцін;
- Пры аднолькавай масе выкарыстанне такіх кальцыевых рашотак дазваляе ўстаўляць у АКБ большую колькасць пласцін з большай колькасцю актыўнай масы. Гэта павышае пускавую магутнасць АКБ да 30 да 52%.
- Павышаецца стабільнасць электратэхнічных характарыстык, АКБ устойліва працуе, значыць, павышаецца яго даўгавечнасць.




Ад вашага правільнага выбару акумулятара залежыць не толькі запуск рухавіка, але і спакойная і бясклапотная язда. Незалежна ад таго, ездзіце вы на аўтамабілі з бензінавым або дызельным (турбадызельным) рухавіком.

Рысунак Валерыя ЧУГЛАЗАВА.

Адрозненні крышак:

1. Звычайныя (з коркамі або без),

2. Тыя, якія маюць спецыяльныя сістэмы сепарацыі (дуплекс–сістэма, сістэма STR, рэкамбінацыйныя коркі). Гэтыя сістэмы зніжаюць выпарэнне вады і сушаць газ. Кіслотная пара кандэнсуецца і вяртаецца ў электраліт, а сухі газ праз лабірынтную сістэму выходзіць вонкі. Перавагі такіх сістэм:

- Зніжаецца расход пласцін, што папярэджвае абсыпанне пласцін;
- Выключаецца карозія вакол месца ўстаноўкі АКБ і кіслата на ёй;
- Выключаецца небяспека выбуху ад злучэння кіслотнай пары з адкрытай іскрай;
- Выключаецца выліванне электраліту пры экстрэмальных нахілах АКБ.

Наяўнасць "вочка зараджанасці" прыемная, але амаль непатрэбная рэч, нават у чымсьці шкодная, бо не дае ўяўлення аб агульным стане АКБ, а толькі аб адной з шасці банак.

## Урэшце, перад намі

Ідэальны акумулятар: паўпразрысты корпус з ёмкай ручкай для пераноскі, заліты і зараджаны, які мае канвертны сепаратар, пласціны з мінімальным утрыманнем сурмы і той, які мае бясшкодную рэкамбінацыйную сістэму.

У наступных выпусках "Аўта–мота" мы раскажам, якім вытворцам лепш аддаваць перавагу, аб гарантыях прадаўца, аб мэтазгоднасці вашых выдаткаў.

**Мікола ГАЙДУК**
**па матэрыялах сайта www.1ak.ru.**

**Заканчэнне будзе.**

■ ПАРАДЫ МЕХАНІКА

## Амартызатары

**Чаму яны такія важныя і па чым пазнаць, што іх трэба замяніць?**

Памяняў некалі сваёй клiентцы амартызатары ў яе "васьмёрцы". Пасля некалькіх хвілін яна вяртаецца з рэкламацыяй:

– Даражэнькі, мая машына не гушкаецца на ямах, як раней. Яна стала вельмі жорсткай.

На жаль, яна не разумела, што машына, якая гушкаецца, кожнага разу адрывала найменш адно кола ад паверхні дарогі. Амартызатары – ногі нашага аўтамабіля. Іх задача – каб колы мелі пастаянны кантакт з паверхняй дарогі, нягледзячы на яе стан.

Кожнае адрыванне кола ад зямлі стварае вялікую небяспеку – аўтамабіль або трапляе ў занос, або не трымаецца кірунку руху. Пры такой яздзе трэба шмат больш метраў, каб затармазіць. Пры няспраўных амартызатарах хутчэй выходзяць са строю элементы падвескі і гума.

Амартызатары можна пракантраляваць самому. Дастаткова паглядзець, ці няма каля іх вільгаці. Вільгаць сведчыць, што амартызатару хутка прыйдзе канец.

Іншы метад – націснуць на капот або багажнік у раёне кола. Калі аўтамабіль закалыхаецца некалькі разоў, маем справу з адпрацаваўшым сваё амартызатарам. Такія дзеянні паўтараем пры кожным коле.



Калі нічога не атрымліваецца або мы няўпэўненыя – звярніцеся на СТА.

Няспраўныя амартызатары трэба памяняць як найхутчэй. Нягледзячы на тое, што псуюцца яны звычайна паасобку, мяняюцца яны парамі. Пярэднія або заднія. Купляйце амартызатары вядомых фірм. Яны даражэйшыя, але і праслужаць даўжэй.

Аднаўленне сапсаваных амартызатараў мае сэнс толькі ў тым выпадку, калі нельга купіць арыгінальных.

**Мікалай ІВАНОЎСКІ.**

■ АНЕКДОТ

## Не пазнаў

Каля траўматалагічнага пункта перабінтаваныя муж з жонкай спыняюць таксі. Селі ў машыну і просяць таксіста:

— Толькі не ганіце, калі ласка. А то нам учора дастаўся такі ліхач, што мы патрапілі ў аварыю.

Таксіст радасна абарочваецца:

— Ой, а я вас не пазнаў!

## Забыўся на люк

Скрыжаванне, чырвонае святло, у шасцісоты "Мерс" уразаецца "Запарожац". Як заўсёды, пачынаецца разборка. Новы рускі:

— Ну, што? Прыбіць цябе, ці што?

Вадзіла "Запарожца" ніякавата павёў плячом:

— За што? Я ж не спецыяльна.

— Ну дык грошай з цябе ўсё адно не возьмеш.

— Не трэба, я навучу, як бясплатна машыну адрамантаваць.

— Як?

— Ты вунь які мужык дзябёлы, справішся. Трэба толькі ў выхлапную трубу падзьмуць мацней, машына ўся і расправіцца.

Ну, новы рускі і пачаў сапець у дзве ноздры, толькі пара валіць. А ад дарадчыка і след прастыў.

Новы рускі дзьме–дзьме, пнецца–пнецца, чырвоным стаў, як вараны рак.

Тут яшчэ адзін братан на 600–м падкатвае:

— Ты што, братан?

— Дык вось, падказалі, як тачку на халяву адрамантаваць. Я ўжо дзьму–дзьму ў трубу, ні храна не атрымліваецца!

— Ды так і не атрымаецца, братан!

— А чаму?

— Дык ты люк забыўся закрыць!

## Дай закурыць!

Вырашылі два сябрукі адцягнуцца на прыродзе. Заехалі на машыне ў лес, селі на палянцы, паддалі як след і паснулі.

Прасынаюцца ў пяць раніцы – дождж ліе, як з вядра. Вада паўсюль, цёмна, пярун грыміць, маланка блішча – навальніца сабралася надоўга. Пахапалі ўсё і па гразі пачопалі да машыны. Залезлі ў машыну, хаця і з бадуна вялікага, і не відно нічога, вырашылі ехаць. Толькі завялі матор і газанулі – раптам за бакавым шклом морда страшная вісіць – зарослая, у нейкіх шрамах, лесавік – не лесавік, бомж – не бомж... І пастуквае пальцам у акно.

— А–А–А–А! Вася! Глядзі, якая морда ў акне!

— Апусці шкло, што ён хоча?

Апусцілі шкло.

— Ч–ч–чаго трэба?

— Мужыкі, закурыць няма?

— Пакапаліся дрыжачымі пальцамі ў бардачку, выкінулі пачку цыгарэт:

— Бяры ўсе!

Адзін аднаму:

— Зачыняй, Вася, акно! Газуй нахрэн!

— Дык нябачна нічога, урэжамся ў што–небудзь!

— Вася, газуй!

Карацей, па газах, матор раве, з'ехалі.

— Вася, ты што бачыў? Хто гэта быў?

— А я пачым знаю. Ды ўжо і з'ехалі мы...

Едуць далей, і раптам той самы бомж за шыбай. І зноў пальцам тук–тук.

— Вася! А–А–А! Ён нас дагнаў!

Адчынілі акно.

— Мужыкі, а запалак няма?

Вікінулі ў акно запальнічку, зачынілі акно.

— Вася, газуй, што ледзь валачэшся?

Едуць далей. Праз хвіліну супакоіліся:

— Можа, па п'яні прымроілася?

Раптам зноў за акном тое самае пудзіла пастуквае пальцам. Ну, тут нервы і не вытрымалі:

— А–А–А! Зноў дагнаў! Чаго трэба!!?

А з–за акна:

— Мужыкі, можа вас усё ж падштурхнуць, а то ніяк з гразі зрушыцца не можаце.

# Лёс гімназісткі з Маладзечна

**Не ўсе ветэраны вайны стаяць на ўліку ў ваенкаматах і ў саветах ветэранаў. Больш таго, многія пасля вайны не маглі знайсці работы па спецыяльнасці, адпаведна адукацыі і магчымасцям. Але яны ўнеслі не меншы ўклад у тое, каб на нашай зямлі запанаваў мір. Маладзечанку Рэгіну Астравух прызнала ветэранам 24 лютага 2000 года Рада Міністраў Польшчы. Падстава – удзел гэтай мужнай жанчыны ў падпольнай асветнай дзейнасці ў Маладзечне. Рэгіна Астравух на свой страх і рызыку арганізавала ў вайну школу для дзетак, якіх патаемна навучала чытаць і пісаць – не вечна ж на нашай зямлі было панаваць акупантам.**



**Рэгіна Астравух і аўтар публікацыі аб ёй кандыдат медыцынскіх навук, стваральнік музея медыцыны ў Маладзечне, знаходзяць агульныя тэмы. Для аднаго – краязнаўца–аматара – важнае кожнае сведчанне аб жыцці Маладзечна тых часоў, сведак якіх застаецца ўсё менш. Для другой гэтыя сведчанні – успаміны аб сваёй маладосці, часе надзей, марах аб светлай будучыні.**
**Памяць карэннай маладзечанкі Рэгіны Астравух захоўвае самыя дакладныя падрабязнасці жыцця. Дапамагае гэтаму і багаты архіў сямейных дакументаў, пісьмаў, газет і часопісаў. У гады вайны выпускніца Маладзечанскай дзяржаўнай польскай гімназіі імя Тамаша Зана Рэгіна Астравух арганізавала падпольную школу для дзяцей, якіх навучала грамаце. Тры гады таму польскімі ўладамі яна прызнаная за гэты ўчынак ветэранам другой сусветнай вайны.**

Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

Рэгіна Захараўна – той чалавек, які збірог для нашчадкаў адзін з нумароў гімназічнага часопіса "Прамень", пра што пісала наша газета. Яна – даваенная выпускніца Маладзечанскай гімназіі імя Тамаша Зана.

Нарадзілася Рэгіна Захараўна 12.12 (25.12) 1918 года на станцыі Зябкі Глыбоцкага раёна Віцебскай вобласці ў сям'і чыгуначніка. Бацька яе, Захар Сямёнавіч, 1894 года нараджэння, працаваў аглядчыкам вагонаў на чыгунцы. Родам ён быў з вёскі Кухцічы непадалёк ад станцыі Негарэлае Дзяржынскага раёна Мінскай вобласці. Маці, Алімпія Пятроўна, з Лагіновічаў, нарадзілася ў 1893 годзе ў вёсцы Баршчы, што каля Палачан Маладзечанскага раёна. У сям'і Захара Астравуха, апроч Рэгіны, было яшчэ трое дзяцей: Гэлена (1915 г.н.), Ян (1921 г.н.) і Таіда-Зузанна (1925 г.н.).

Вялікія цяжкасці перанесла сям'я і яе блізкія ў гады першай сусветнай вайны. Аповяд пра гэты перыяд патрабуе асобай увагі і апісання ў асобным артыкуле.

У 1921 годзе бацькі купілі ўласны дом каля чыгуначнай станцыі ў Маладзечне на Заване, цяпер вуліца Новы Свет. Жыццё наладжвалася. У сям'і было ўжо чацвёра дзяцей. Сумаваў Захар Сямёнавіч па сваёй радзіме і родных, што апынуліся за савецка-польскай мяжой пасля мірнага Рыжскага дагавора ад 18.03.1921 года, і вырашыў нелегальна наведаць бацькаўшчыну. Летам 1925 года ён перайшоў "зялёную мяжу" (яе ў той час пераходзілі многія) і дамоў не вярнуўся. Толькі цудам удалося вызваліцца яму з турмы праз некалькі гадоў. Працаваў рабочым у Іркуцку, на Урале, потым — у Маскве. У 1929 годзе спрабаваў пераслаць па пошце 100 рублёў для сям'і ў Польшчу. У пісьмовай форме яму было ў гэтым адмоўлена.

Толькі ў чэрвені 1941 года, за два дні да пачатку вайны, ён змог вярнуцца ў сваю сям'ю. Здароўе было моцна падарвана, хварэў і 20 чэрвеня 1943 года памёр ва ўзросце 59 гадоў. Жыць сям'і без бацькі было вельмі цяжка. Дапамагалі родныя Алімпіі Пятроўны.

Пасля заканчэння чатырох класаў паўшэхнай (усеагульнай) школы Рэгіна паступае ў 1929 годзе ў другі клас Маладзечанскай польскай гімназіі (у першы клас гімназіі прымалі вучняў ва ўзросце ад 10 да 14 гадоў, якія паспяхова закончылі тры класы пачатковай школы). Вучылася добра. Ад платы за навучанне была вызвалена. Кошт навучання каштаваў 75 злотых ў паўгоддзе. Звальненнем ад уплаты карысталіся вучні з бедных слаёў насельніцтва, выдатных павадзін і з добрымі поспехамі ў навуцы. Падчас вучобы ў VI-VIII класах Рэгіна ўжо мела і свае заробкі за практычныя заняткі дома з вучнямі малодшых класаў, якія адставалі ў вучобе.

У 1936 годзе Рэгіна паспяхова заканчвае Маладзечанскую гімназію і паступае ў Крамянецкі дзяржаўны педагагічны ліцэй (Заходняя Украіна). Тут таксама вучылася паспяхова. Ад платы за вучобу і знаходжанне ў інтэрнаце з забяспечаным харчаваннем яна была таксама вызвалена. Актыўна ўдзельнічала ў грамадскім жыцці ліцэя і інтэрната. За вучобу на такіх варунках у ліцэі пасля яго заканчэння яна абавязана была адпрацаваць не менш двух гадоў у школе, вызначанай школьнымі ўладамі.

У 1938 годзе яна накіроўваецца на пасаду настаўніцы пачатковых класаў у 7-класную паўшэхную школу ў вёсцы Крымна, што каля Ковеля. У гэтай школе разам з ёй працавалі чатыры настаўнікі. Адпрацавала год. Цешылася сваёй прафесіяй. Вельмі дружныя і цёплыя былі адносіны з калегамі, з насельніцтвам.

Пачалася другая сусветная вайна. Працу ў гэтай школе не пакідала. Другі навучальны год адзначыўся зменамі калектыву, дырэктар школы і два настаўнікі былі арыштаваны, сем'і іх вывезены ў глыбіню СССР. Працаваць стала цяжка. Пасля заканчэння навучальнага года атрымала дазвол на пераезд у Маладзечна.

У перыяд нямецкай акупацыі школы былі зачыненыя. Трэба было з чаго жыць, а значыць, працаваць. Была прынятая на пасаду перакладчыцы нямецкай мовы ў базавую службовую прадуктовую кантору. Тагачасны гімназічны курс забяспечваў грунтоўныя веды па замежных мовах, якія дазвалялі даволі паспяхова мець зносіны з іншаземцамі. Акрамя гэтага выпісвала асабістыя пасведчанні — "Personal-ausweis", дапамога многім людзям у гэтай справе была для іх вельмі значнай. Апроч гэтага яна арганізавала і праводзіла ў гэты перыяд тайнае навучанне дзяцей на польскай мове па праграме пачатковай школы.

У 1943 годзе загінуў брат Ян, які працаваў чыгуначнікам у Аляхновічах.

Пасля заканчэння вайны з працай настаўніцы ў школе па вядомай прычыне прыйшлося развітацца. Выратавалі агульнаадукацыйныя веды, атрыманыя ў гімназіі і ліцэі, а таксама напружаная штодзённая праца... На працягу 48 гадоў працавала ў якасці рабочай пры аднаўленні чыгуначнай станцыі і чыгуначных пуцей, касірам на гэтай жа станцыі (1944-1947), кантралёрам вячэрняй касы дзяржбанка (1948), уютчыкам, эканамістам на швейнай фабрыцы (1949-1956). Жыла разам з маці. Два гады знаходзілася ў Польшчы у сваёй старэйшай сястры. Адкрывалася перспектыва педагагічнай працы. Угаварыць маці выехаць у Польшчу не змагла. Мусіла вярнуцца ў Маладзечна. Потым увесь час шкадавала аб гэтым.

Працавала на заводзе штучнага каракулю бухгалтарам, майстрам завода, эканамістам камбіната (1958-1964), на швейнай фабрыцы — майстрам-закройшчыцай, прыёмшчыцай (1965-1987). Пасля выхаду на пенсію да мая 1999 працавала прыбіральшчыцай на фабрыцы індывідуальнага пашыву адзення.

У ліпені 1989 года памерла маці. З таго часу і жыве адна. Адзінокай сябе не лічыць. Уласны дом, агарод, сад патрабуюць беспярэпыннай працы і догляду. Любіць кветкі. Шмат чытае. Дапамагае авалодваць польскай мовай моладзі, якая рыхтуе сябе для паступлення ў вышэйшыя навучальныя ўстановы Польшчы. Ёй шчыра дапамагае сям'я роднай сястры Таіды Акуневіч, муж якой, Тадэвуш Станіслававіч, з'яўляўся інжынерам праекта і кіраўніком будоўлі ў Маладзечне новага касцёла Святога Юзафа, узведзенага ў 1997 годзе.

З цеплынёй успамінае і дзякуе былым сваім кіраўнікам па працы – дырэктарам швейнай фабрыкі Івану Сяргеевічу Грыбу, Ганне Фёдараўне Буравай, Аляксандру Аляксандравічу Пулькіну за чалавечнасць, дабрыню і спагаду.

Неаднойчы было і так, калі начальнік установы, дзе патрэбны былі працаўнікі розных спецыяльнасцяў, на просьбу Рэгіны прыняць на працу запісваў звесткі з пашпарта, назначаў дату наступнай сустрэчы, а потым казаў, што прыняць на работу "не имеет возможности".

Самыя светлыя дні ў жыцці былі для Рэгіны Захараўны ў гады навучання ў гімназіі і ліцэі. Яна ўспамінае пра іх з асаблівым уздымам, запалам, нават гонарам, як чалавек, які атрымаў з незабыўнай духоўнай крыніцы тую чалавечую каштоўнасць, якая не растрачвалася на працягу ўсяго жыцця. Гэтую каштоўнасць перадавалі гімназістам таленавітыя дырэктары Уладзіслаў Ваўрыка, Уладзіслаў Люро і настаўнікі Антон Анцэвіч, Марыя Свянткоўская, Уладзімір Арлоў, Павел Барыслаўскі, Часлаў Юрэвіч, школьны лекар Пётр Маслоўскі і іншыя.

"Настаўнікі ў гімназіі, – распавядае Рэгіна Захараўна, — былі людзі асобага гарту, з'яўляліся сапраўднымі выкладчыкамі, усе былі на сваім месцы. Яны ўсімі сваімі паводзінамі, адносінамі да працы, да навучэнцаў, да жыцця наогул ставіліся ўзнёсла і аддана. Выходзілі з гімназіі людзі інтэлігентныя. Акрамя стварэння ўмоў для атрымання ўсеагульных ведаў (канферэнцыі, лекцыі, заняткі ў кабінетах, розных гуртках), ствараласся для моладзі асаблівая духоўная атмасфера, асаблівы стыль выхавання, патрабавальнасць, абавязковасць".

Рэгіна Захараўна цудоўна дэкламуе па памяці вершы многіх паэтаў аб дружбе, дабрыні, каханні, патрыятызме, чалавечай годнасці на польскай мове, лацінскія афарызмы, а таксама "гаудэамус" – сярэдневяковую песню студэнтаў на лацінскай мове, якая была вельмі папулярнай сярод студэнтаў розных краін. Гэтая песня ўхваляла жыццё, маладосць і навуку, адраджаецца сярод студэнтаў у апошнія гады і ў нашай краіне.

У размове Рэгіна Захараўна распавядае пра сябе: "Я пражыла доўгае, складанае, поўнае выпрабаванняў жыццё, аднак і змястоўнае. Багацця не нажыла. Жыла з верай у бога і заўсёды працавала, не ўхілялася ад ніякай работы. Яшчэ з гімназіі запомніла лацінскую прыказку "Ora et labora" (маліся і працуй). Ва ўзаемаадносінах з людзьмі на рабоце і ў быце паводзіла сябе так, каб ніколі не ўнізіць гонару, пачуцця ўласнай годнасці і годнасці іншага чалавека. Дапамагала ўсім, чым магла. Гэтым і была шчаслівая.

Для таго, каб выжыць у змрочныя часы, трэба было працаваць. А такая патрэбнасць, як вядома, не знае адпачынку. Акрамя гэтага, каб пражыць і выжыць нашаму пакаленню, трэба было засвоіць і іншыя правілы: "працуй, слухай, глядзі, маўчы, запамінай".

Сустракала розных людзей. Дасканала памятаю ўсе ўчынкі тых, хто быў добры да людзей і да мяне. Сярод добрых людзей і жыць было лягчэй.

Нягледзячы на абставіны, якія прыніжаюць многія чалавечыя каштоўнасці, кожны чалавек, а тым больш інтэлігент, павінен заўсёды знаходзіцца на высокім маральным узроўні".

Разумныя, пранікнёныя словы, стрыманасць, абаяльнасць, прыветлівая ўсмешка, тактоўнасць, шчыры позірк добрых вачэй – сведчанне яе высокай інтэлігентнасці і багатай жыццёвай мудрасці. Пераконвае тое, што жыццё такіх людзей заўсёды з'яўляецца асэнсаваным, з крытычным усведамленнем з'яў, што адбываюцца ў грамадстве.

Рэгіну Захараўну цікавяць хуткія змены ў жыцці краіны і свету. Шмат чытае. У яе мноства падшывак газет, часопісаў і айчынных, і польскіх, кніг, энцыклапедычных выданняў. Яна заўважае час, адчувае яго прабег. Думае аб будучым. Упэўнена, што грамадству не патрэбна адварочвацца ад усяго добрага і прыгожага, што зроблена людзьмі раней, адмаўляцца ад яго толькі таму, што яно старое, былое, што нашу моладзь трэба выхоўваць з павагай да продкаў, спасціжэння дабра, справядлівасці, прыстойнасці.

Дзяржаўных узнагарод Раіса Захараўна за працу не мае. Ёй уручалі ганаровыя граматы і падзякі з месца працы. Яна і не шкадуе аб гэтым. Самай вялікай падзякай для яе з'яўляецца любоў, павага і ўдзячная памяць людзей за яе дабро, зробленае для іх.

**Франц СВІТО,**
**кандыдат медыцынскіх навук.**

# Няўрымслівае племя

**Што самае цікавае ў спартыўным спаборніцтве?**
**На гэтае пытанне адназначна адказаць нельга. Для каго – дынаміка спаборніцтва, для каго – тэхніка, для каго – вынік, выказаны ў лічбах. Для многіх – назіранне са сваім братам–балельшчыкам. Столькі эмоцый, як на трыбунах падчас футбольнага матча, наўрад дзе выплёскваецца. Асабліва, калі інтрыга доўга не адпускае.**
**На гэтай фатаграфіі – момант у час нядаўняга фінальнага матча на Кубак Беларусі, калі каманда «Дынама» з Мінска перамагла «Лакаматыў» з лікам 2:0. Было гэта 24 мая.**



Фота IREX/ProMedia

■ ФУТБОЛ, ВЫШЭЙШАЯ ЛІГА

## Пастаўшчыкі ачкоў

1 чэрвеня. 4000 гледачоў. Суддзя Вярбіцкі.

Нафтан (Наваполацк) – Маладзечна-2000 2:0 (0:0)

Галы: Вехцеў (66, 88). Склад: Сцепановіч (Міхайлаў, 46) – Маляўка, Косак, Дрозд – Макрыцкі, Альховік, Якубоўскі (Веташкін, 46), Кабельскі, Пазняк – Альхавік (Сідарэнка, 70), Кухлей

Вынікі матчаў нашых суседзяў па табліцы. Дынама (М) – Зорка-ВА-БДУ 4:0, Славія – Дынама (Б) 1:1, Лакаматыў (М) – БАТЭ 2:2.

1. Тарпеда (Ж) ........ 15
2. Гомель ........ 15
3. Тарпеда-СКА ........ 15
4. Шахцёр ........ 14
5. Нафтан ........ 11
6. БАТЭ (+1) ........ 11
7. Дынама (Б) ........ 10
8. Белшына ........ 9
9. Нёман ........ 9
10. Дынама (М) ........ 7
11. Дарыда ........ 7
12. Днепр-Трансмаш ........ 7
13. Лакаматыў (М) ........ 6
14. Славія ........ 5
15. Маладзечна-2000 (+1) . 5
16. Зорка-ВА-БДУ ........ 2

Сяргей ГАЙКОВІЧ.

■ ФУТБОЛ, ПЕРШАЯ ЛІГА

## Дасведчаныя госці

31 мая. 3000 гледачоў. Суддзя Пятровіч.

Смаргонь – Ведрыч-97 (Рэчыца) 0:1

Гол: Юсіпец (90)

Бліжэй да заканчэння сустрэчы смаргонцы страцілі ініцыятыву. Трывожным званком ля нашых варот паслужыў амаль галявы ўдар актыўнага Забалоцкага, які бліскуча "выцягнуў" Хіманыч. Было некалькі небяспечных стрэлаў міма "рамкі". Урэшце Дземенкавец аддаў пас за спіны абаронцаў, і Юсіпец выкарыстаў выхад сам-насам з галкіперам.

1. Лакаматыў (В) ........ 16
2. МТЗ-РІПА ........ 15
3. Ведрыч-97 ........ 15
4. ЗЛіН ........ 15
5. Хімік ........ 14
6. Смаргонь ........ 12
7. Граніт ........ 12
8. Камунальнік ........ 11
9. Ліда ........ 10
10. Нёман ........ 9

Мікіта ЛІСТАПАД.

■ ФУТБОЛ, АНАЛІЗ

## Бязладдзе пры безуладдзі

**МАЛАДЗЕЧНА. Мясцовы футбольны клуб – гэта закрытае акцыянернае таварыства. У ЗАТ ёсць акцыянеры. Іх імёны па агульнапрынятай практыцы трымаюцца ў тайне. Мы помнім, што ў 2000-м і 2001-м гадах клуб спансіраваў сябры Людаса Румбуціса. Яны тады сваіх укладзеных грошай не "адбілі". Хацелі прадаць кантрольны пакет акцый клуба за 300 тысяч долараў, аднак далей ніякіх паведамленняў не было. Толькі адзін з іх – Андрэй Балабін, якога называюць старшынёй савета акцыянераў, – зараз абазначае свой клопат пра клуб, бо мае ў Маладзечне невялікі бізнес.**

Зімой было спадзяванне на новага спонсара – фірму "Прастол" на чале з Алегам Французавым. Той казаў, што зараз пры апякунскіх адносінах гарадскіх уладаў "раскруціцца" камерцыйная дзейнасць, і клуб будзе не прасіць, а зарабляць грошы. Цяпер яго пасада генеральнага дырэктара вакантная, і не бачна, каб нехта варушыўся, шукаў новую кандыдатуру.

Алег Французаў тым часам застаецца ў клубе, здаецца, у якасці передатачнага звяна для выплаты зарплаты з бюджэтных грошай: тая справа, якую раней выконваў Юрый Лукін. Як вядома, са сродкаў мясцовага бюджэту можна фінансаваць да 40% расходаў спартыўнага клуба. Атрымліваецца так: распісваецца каштарыс расходаў, дзе закладзеныя гэтыя бюджэтныя 40% ад усяго. На практыцы выконваюцца толькі яны, а больш ніякіх паступленняў няма. Ды і то выконваюцца не заўсёды: на дадзены момант футбалісты не атрымалі зарплату за красавік, а наконт прэміяльных і гутаркі няма. Навошта тады камандзе набіраць ачкі?

Праўда, гэта тэма асобная – хто за які стымул гуляе, каму будзе сорамна перад знаёмымі на родным стадыёне, а для каго Маладзечна – чужы горад.

Цікава, хто застанецца ў "Маладзечна-2000" пасля першага круга, калі футбалістам будзе дазволена змяніць клуб. Пакуль жа каманда трэніруецца і гуляе, спецыялісты, якіх прывёў Вячаслаў Акшаеў, – таксама працуюць. Але трэнеры і футбалісты думаюць пра сваю далейшую працу. Адсюль зразумела, чаму, напрыклад, вельмі часта гульнявая практыка даецца Кухлею і Альхавіку замест Макрыцкага і Лявончыка, а Веташкіну і Якубоўскаму – замест Альховіка і Дразда.

Летась у другім крузе маладзечанцаў стала больш паловы склада і гульцоў, і трэнераў. Яны занялі 13 месца (сёлета каманда ўжо на 15-м), "выжыўшы" ў вышэйшай лізе і стварыўшы калектыву, які ў некалькіх матчах, у першую чаргу ў заключным туры з "Тарпеда-МАЗам", паказаў якасную гульню. А зімой пад імя Вячаслава Акшаева той калектыў быў развалены, бо гарадскім уладам захацелася лепшых вынікаў.

Хаця наперадзе ажно 22 туры, усе каманды навокал не спяць у шапку, пастуова набіраюць ачкі. Гэта не атрымліваецца толькі ў "Маладзечна-2000" і "Зоркі-ВА-БДУ". Аднолькава роўных (між сабой згулялі ўнічыю) у сваім бяссіллі?

Сяргей ГАЙКОВІЧ.

■ ФУТБОЛ, КУБАК

## «Камунальнікі» саступілі нашым

У сераду, 4 чэрвеня, прайшлі матчы першага раунда (1/32 фіналу) Кубка Беларусі.

Забудова – Камунальнік (Слонім) 0:0 (па пенальці 4:2).

Камунальнік (Жлобін) – Смаргонь 1:2.

Цяпер, 9 жніўня, (субота) у рамках 1/16 фіналу прадстаўнікі вышэйшай лігі (4 з іх будуць вызвалены ад удзелу) прыедуць у госці да 4 шчаслівчыкаў і 8 пераможцаў першага раунда. Так што, і ў Смаргоні, і ў Чысці чакаюцца ганаровыя госці.

Сяргей ГАЙКОВІЧ.

■ ЗЛЁТЫ

## Зляцелася моладзь. Турыстычная

**МАЛАДЗЕЧНА. 31 мая і 1 чэрвеня ў рамках правядзення абласнога тыдня турызму і краязнаўства ў раёне турбазы "Вілія" адбыўся вучнёўскі раённы спартыўна–турысцкі злёт.**

На 2 дні спевы птушак дапоўнілі вясёлыя галасы і смех удзельнікаў злёту. Спачатку дзеці шчыравалі над добраўпарадкаваннем лагера, кожнаму знайшлася справа па сэрцы і па магчымасцях. Цудоўныя лясныя "хаткі" ўпрыгожылі паляну і лес паблізу Віліі. А жыць у іх сталі "Дзікуны", "Прайдзісветы" і г.д. – няўрымслівыя турысты з раённых школ. І ўрачыстае адкрыццё злёту, і турысцкая эстафета, і спартыўнае арыентаванне, і безліч конкурсаў (на лепшае добраўпарадкаванне лагера, на лепшага повара, лепшую турысцкую песню, газету) – усё пакіне шмат успамінаў у сэрцах школьнікаў.

У агульнакамандным заліку першае месца заняла каманда Гарадоцкай сярэдняй школы, другое – Чысцянскай СШ, трэцяе – Красненскай СШ. Яны былі адзначаныя граматамі, сувенірамі, падарункамі ад раённага аддзела адукацыі, аддзелаў фізкультуры, спорту і турызму і па справах моладзі райвыканкома.

Лена ПРАСНЯЦОВА,
загадчыца вучэбна–метадычнага кабінета Маладзечанскага раённага аддзела адукацыі.

## Табло

■ ФУТБОЛ, ВЫНІКІ

**25 мая. Ваўкавыск – СКЗ-ДЮСШ-2 1:0.**
**27 мая. Маладзечна-2000 (дубль) – Шахцёр (Салігорск, дубль) 0:1.**
Гол: (38). Выдаленыя Тураў (Маладзечна-2000) і Парываеў (Шахцёр) на 53 хвіліне, Аўчыннікаў (Маладзечна-2000) на 76 хвіліне.
**31 мая. Спартак-ВАР (Шклоў) – Забудова 3:0 (1:0).**
Галы: (20), (78), (85).
**31 мая. Нафтан (Наваполацк, дубль) – Маладзечна-2000 (дубль) 3:0.**
1 чэрвеня. СКЗ-ДЮСШ-2 – Прамень (Гродна) 1:2 (Жырун).

■ БАСКЕТБОЛ

**СМАРГОНЬ. Жаночая зборная краіны правяла трэніровачны збор з выездам на турнір у Польшчу.**

На збор была выклікана 17-гадовая Юлія Дурэйка, якая пачынала навучацца баскетболу ў смаргонскай СДЮШАР у бацькі-трэнера Сяргея Дурэйкі, а зараз займаецца ў сталічным РВАРы. Беларускі на турніры прайгралі ўсе тры матчы: двум польскім клубам і зборнай Літвы. Тым не менш галоўны трэнер зборнай Анатоль Буяльскі застаўся задаволены дзеяннямі юных кандыдатак у зборную, у першую чаргу Дурэйкі. Яна набірала ачкі ў кожнай сустрэчы і вельмі карысна дзейнічала на падборах.

Дарэчы, РВАР, за які, акрамя Юліі Дурэйкі, выступае таксама 16-гадовая Алена Рынкевіч, заняў 4 месца ў чэмпіянаце краіны.

■ ГАРАДКІ

**У мінулыя выхадныя ў сталіцы прайшлі рэспубліканскія спаборніцтвы хлопцаў да 14 гадоў.**

Сабралася 36 удзельнікаў, у тым ліку па 8 прадстаўлялі Маладзечанскі раён і валожынскую школу-інтэрнат.

У асабістай барацьбе лепшым з нашых стаў маладзечанец Павел Філістовіч – 2 месца, а 1 і 3 месцы занялі жодзінцы. Маладзечанец Дзмітрый Кісялевіч быў пятым, а валожынец Дзмітрый Голікаў – дзевятым.

Камандны турнір праходзіў па кругавай сістэме сярод пяці калектываў. Вынікі атрымаліся звышшчыльныя: 1. Нёман (Бярозаўка) – 5 ачкоў. 2. Брэст – 4. 3. Маладзечанскі раён – 4. 4. Школа-інтэрнат (Валожын) – 4. 5. Жодзіна – 3.

■ ДЗЮДО

**МАЛАДЗЕЧНА. На рэспубліканскіх спаборніцтвах сярод хлопцаў 1989-90 г.н. 1-е месца ў сваёй вагавай катэгорыі заняў Віталь Шаўлюк (СШ№14). Тры чалавекі падзялілі 5-6 месцы: Яўген Сушко (СШ№14), Арцём Навум (СШ№8), Арцём Гоман (СШ№8).**

Хлопцы 1991 г.н. і меншыя выязджалі на турнір у польскі Быдгашч. Лепшым на турніры назвалі Віталя Пачкоўскага (СШ№11), які заняў 1 месца. 2 месца на рахунку Яна Панарына (СШ№6) і Яўгена Тышкевіча (СШ№6). 3 месца ў Валерыя Лявончака (СШ№6).

Сяргей ГАЙКОВІЧ.

■ АНОНС

**8 чэрвеня. Граніт (Мікашэвічы) – Смаргонь**
+0=1-1 1-3. Летась 0:2 на выездзе і 1:1 (Казлоў) дома
**8 чэрвеня. 18-00. Забудова – Баранавічы**
+0=1-3 4-13. Летась 1:3 (Байлукоў) дома і 1:5 (В. Урублеўскі) на выездзе
5 месца, 10 ачкоў – 1 месца, 18 ачкоў.

